*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
**ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ**



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 48 (635) 24 СНЕЖНЯ 2003 г.

# З Новым 2004 годам!



## Калядуем па-беларуску

*Дарагія суайчыннікі!*

*Сакратарыят ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" віншуе Вас з Калядамі і Новым Годам і зычыць шчодрых святочных дзён.*

*Калядныя святы задумваліся і складаліся нашымі продкамі, на нашай мове. Давайце ж адзначым іх гэтак жа, як атрымалі ў спадчыну, - разам, на роднай мове, шчыра, па-беларуску.*

*Набудзем беларускамоўныя паштоўкі, маркі, канверты, загадзя павіншуем сваіх сяброў і знаёмых, каханых і родных - бацькоў і дзяцей, бабуль, дзядуль і ўнукаў. Хай беларускае мілагучнае слова дойдзе да сэрца ўсіх жыхароў Беларусі.*

*Запяваем разам нашыя спрадвечныя калядныя песні, выйдзем з імі на вуліцы і плошчы, зойдзем да суседзяў і сваякоў. Хай калядныя мяхі напаўняюцца каўбасой і паляндвіцай, цукеркамі і арэхамі, печывам і адмыслова гатаванымі хатнімі прысмакамі.*

*Калі ў калядныя і навагоднія вечары беларускае слова будзе ў нашай хаце гаспадаром, а не госцем, то Новы 2004 год яшчэ больш паспрыяе нам у справе нашага Адраджэння.*

*Сакратарыят ТБМ.*

## IX З'ЕЗД ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ" VII З'ЕЗД ПАРТЫІ БНФ




20 снежня 2003 года пад Менскам, нягледзячы на дробныя пакасці з боку ўладаў, адбыліся чарговыя з'езды Грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ.

Паседжанне пачалося з выканання духоўнага гімна беларусаў "Магутны Божа" і ўносу сцяга Партыі БНФ. Сцяг унеслі намеснік старшыні Віктар Івашкевіч, які днямі вярнуўся з месца зняволення і старшыня камісіі па культуры Аляксей Марачкін. Хвілінай маўчання былі ўшанаваныя сябры БНФ, якія адышлі ў лепшы свет за апошнія два гады.

На з'езд ГА БНФ "Адраджэньне" прыехаў 221 дэлегат з 305 вылучаных, 219 дэлегатаў з 302 вылучаных прыехала на з'езд Партыі БНФ. Сярод гасцей былі зафіксаваныя граф Прышынскі ды Людміла Гразнова.

Дэлегаты заслухалі справаздачныя даклады старшыні ГА БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ Вінцука Вячоркі, намеснікаў старшыні Юрыя Хадыкі, Галіны Сямдзянавай і Віктара Івашкевіча, а таксама справаздачны даклад Рэвізійнай камісіі.

Асноўны лейтматыў дакладаў укладваецца ў фразу, агучаную адным з дэлегатаў: "Скажам пра сябе ўсё добрае, а дрэннае скажуць дэлегаты". У такім ключы і ішоў з'езд. Да прыкладу, як значны поспех падаваўся той факт, што на прайшоўшы выбарах у мясцовыя саветы 20 сяброў БНФ стала дэпутатамі, пры гэтым забывалі згадаць, што ўсяго ў Беларусі было абрана больш 5000 дэпутатаў толькі ў раённыя і гарадскія саветы, не ўлічваючы саветы сельскія, бо тады працэнт атрыманых дэпутацкіх мандатаў становіцца зусім мізэрным.

Вострую палеміку выклікала пытанне невыканання кіраўніцтвам БНФ рашэння папярэдняга з'езду аб заснаванні ўласнай фронтаўскай газеты, пастаўленае шэрагам дэлегатаў. На гэты раз кіраўніцтва было хітрэйшае. Старшыня і намеснікі пераканалі з'езд, што сёння мецъ партыйную газету "не модна, не па-еўрапейску, трэба карыстацца незалежнай прэсай, якая ўжо ёсць". Але, як падаецца, гэтая пазіцыя не бездакорная. Яна можа і мела б рацыю гадоў пяць назад, калі ў склад Сойму БНФ уваходзілі Ігар Германчук, галоўны рэдактар газет "Свабода" і "Навіны", Мікола Маркевіч, галоўны рэдактар газеты "Пагоня" і інш. Аднак у новым складзе Сойму няма ніводнага рэдактара. Праўда, некалькі рэдактараў рэгіянальных газет з'яўляюцца шараговымі сябрамі БНФ. Тут у нас сітуацыя, як з новымі правіламі дарожнага руху: не важна што і дарогам нашым далёка да Еўропы, і машынам, але ўсю зіму ездзім, як у Еўропе, з уключанымі фарамі. Таму застаецца толькі здагадвацца, старонкі якіх газет засвецяцца зараз інфармацыяй пра дзейнасць БНФ і яго кіраўніцтва.

Аднак, нягледзячы на ўсю крытыку, на заявы рэгіянальных арганізацый, дэлегаты прызналі працу кіраўніцтва БНФ у справаздачны перыяд здавальняльнай.

*(Працяг тэмы на ст. 5.)*

## Віншаванне

***Сакратарыят ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуюць Вінцука Вячорку, сябра Рады ТБМ, з абраннем на пасаду старшыні Грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ. Віншуем Юрася Хадыку, Віктара Івашкевіча, Аляксея Янушкевіча і Алеся Міхалевіча з абраннем на пасады намеснікаў старшыні, а таксама віншуем новы склад Сойму і Рэвізійнай камісіі.***

***Выказваем спадзяванне, што новае кіраўніцтва БНФ захавае традыцыі арганізацыі ў падтрымцы беларускай мовы, беларускіх нацыянальна-культурных каштоўнасцяў і беларускай нацыянальнай ідэі.***

***Віншуем новае кіраўніцтва БНФ з надыходзячым Новым 2004 годам. Жадаем поспехаў у дзейнасці на карысць Беларусі.***

***Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова".***





# ЯК ЯНЫ ПАЗНАЛІ СЯБЕ БЕЛАРУСІНАМІ?

## З спадчыны Язэпа Лёсіка

***Выйшла з друку новая кніга "Язэп Лёсік. 1921–1930". – Мн.: Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь: выд. Логвінаў, 2003. –396 с. 300 ас. Укладанне, прадмова, каментары Алеся Жынкіна.***



*Выданне – юбілейнае, прымеркаванае да 120-х угодкаў мовазнаўца і пісьменніка. Гэта збор твораў, пад вокладкай якога сабраныя публіцыстыка і навуковыя працы Язэпа Лёсіка за 10 гадоў жыцця. Захаваны тагачасны правапіс. Кніга добра праілюстраваная архіўнымі фотаздымкамі, у тым ліку, вокладкамі ці тытульнымі аркушамі падручнікаў. Кніга – не ёсць поўны збор таго, што створана Язэпам Лёсікам за пазначаны перыяд. У яе не ўвайшлі, падручнікі, зборнікі "Наша Крыніца" і матэрыялы Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. Да выдання кнігі спрычыніліся: Аляксандра Гесь, Вячаслаў Селяменеў, Валеры Герасімаў, Людміла Рабок, Уладзімір Грамовіч, Ганна Запартыка, Антаніна Гарон, Людміла Сільнова, Аляксандр Стэфановіч.*

Набыць кнігу можна, звярнуўшыся па тэл. +375 (017) 2275747, эл. пошце logvinovpress@mail.ru альбо ў сядзібу ТБМ.

*У 2004 г. калектыў плануе перавыданне першага тома збору твораў Язэпа Лёсіка. (Творы: Апавяданні. Казкі. Артыкулы. Мн., 1994, 335 с.) з захаваннем арыгінальнага правапісу. Гэта будзе выпраўленае і дапоўненае выданне. Асобна мяркуецца падрыхтоўка трэцяга тома, куды ўвойдуць архіўныя дакументы, перапіска, успаміны, фотаздымкі і даведачны матэрыял.*

***Прапануем чытачам "Нашага слова" адзін з артыкулаў, змешчаны ў кнізе.***

***Наш кар.***

На лектара-інструктарскіх і настаўніцкіх курсах у Менску мною, як лектарам беларусае мовы, была дадзена тэма для пісьменнага ўкладаньня такога зьместу: "Як я пазнаў сябе беларусінам?" Гэта было ўвесну 1921 году. Курсантаў было чалавек 80. Некаторыя работы не зрабілі і, такім спосабам, ад споведзі ўхіліліся, а рэшта падала наступныя одпаведзі, якія прыводзяцца тут у скарачэньні.

**В. Ажгірэй?** "Ня помню, калі я першы раз пачуў словы – Беларусь, беларусы. Мне здаецца цяпер, што гэта магло стацца толькі тады, як я вучыўся у двухклясовай школцы. Выкладаючы расійскую геаграфію, настаўнік звычайна гаварыў пра тое, што ў Паўночна-Заходнім краі, або Беларусі, ёсць шмат лясоў і балот, сярод якіх найбольшыя Пінскія балоты, дзе пануе хвароба калтун. Дадаваляся яшчэ, што ў гэтай беднай старонцы жывуць беларусы, якія гавораць папсованаю расійскаю моваю, носяць лазовыя лапці і зрэбныя кашулі. Ад гэтай лекцыі рабілася такое ўражаньне, што Беларусь і беларусы – гэта такое няшчасьце, якога ня трапіш нідзе, прайшоўшы хоць кругом сьвету.

Зразумела, што пры такім выхаваньні ў вучняў не магло зьявіцца любасьці да роднага краю і народу і жаданьня працаваць на карысьць свайго краю і народу. Са школьнай лаўкі ўжо шмат каго цягнула ў далёкую Маскоўшчыну, або на Украіну, дзе, здавалася, сярод лепшай прыроды жывуць і другія лепшыя людзі.

Настаўніцкая сэмінарыя, у якой мне давялося вучыцца па сканчэньні двухклясовай школы, так-сама мала знаёміла з Беларускім краем і народам, а калі з чым і знаёміла, то бралася пад увагу толькі адна, як кажуць ценявая старана справы"

Потым аўтар кажа, што, будучы ўжо настаўнікам, ён пазнаёміўся з адным сьвядомым беларусінам, які расчыніў яму вочы.

Разам з работай аўтар прыслаў на перагляд свой верш, напісаны ім яшчэ ў 1918 годзе.

**Беларусь**
**(З надаўняй мінуўшчыны)**

Яна старанькай кабетай
Па сьвеце дыбае,
І дарогу ў сэрца дзетак
Ходзячы шукае.

Хоча родным сваім дзеткам
Прыдбаць лепшай долі,
Каб яе род не загінуў,
Як парахно ў полі.

Але дзеці ад старэнькай
Бягуць, уцякаючь,-
Іх убор яе старэчы,
Лахманы пужаюць.

"Пачакайце-ж, не ўцякайце,
Дарагія дзеці!
Каб ня сорам было маткі,
Яе трэ' адзеці.

Мне старэнькай вы узычце,
Хаця трошкі працы,-
Годзе строіць усё жыцьце
Чужынцам палацы!

Ці на тое вас радзіла.
Дала талент, сілу,
Каб самой крыж цяжкі несьці
Да самай магілы?

Вы-ж і самі сіратамі
Ходзіце па сьвеце.
Неразумныя мае вы,
Гаротныя дзеці!

Усе сокі, усе сілы,
Чужым вы аддалі,
Што-ж за гэта ад чужынцаў
Сабе вы прыдбалі?

Толькі зьнішчылі дарэмна
Сваю родну хатку,
Носіць жыцьце пад'ярэмна
Старэнькая матка.

Вам вярнуцца ўсім да хаты
Хутчэй, дзеткі, трэба!
Ураджай дае багаты
Толькі родна глеба.

Ваша праца ў роднай хаце
Навек не загіне,
І старая ваша маці
Пры вас адпачыне.

Дык хутчэй-жа пасьпяшайце,
Незачым марудзіць,
Бо бяз вас як паканаю,
Тагды позна будзе"

Так старэнькаю кабетай
Беларусь блукае
А дарогу ў сэрца дзетак
Ці знойдзе? Хто знае.

P. S. Я чую: вы кажаце – не!
Няўжо-ж і народу
нас сьмерць не жахне.
Ў якой будзем ўсе вінаваты?
Мы-ж людзі яшчэ, а ня каты!

***В. Аж.-Гірэй.***

**Галена Рымач:** "Яшчэ будучы малой я заўсёды ў хаце сваіх бацькоў гаварыла пабеларуску, але, баючыся свайго бацькі, які крычаў на мяне за гэта, я пры ім ужывала найбольш расійскія словы. Потым, як я пайшла ў школу, дык заўсёды, як-бы я не старалася добра гаманіць парасійску, я абавязкова шмат слоў ужывала беларускіх. За гэта мяне называлі мужычкай, і я ня раз чырванела ад сорамy.

Гэтак было ў пачатковай школе, гэтак было і далей. І я стала чурацца своёй роднай беларускай мовы, ведаючы, што, калі буду гаманіць "папростаму", дык буду "простай мужычкай".

... Потым я сама сьмяялася з тых, хто часам, мо' проста зьнячэўку, ужываў беларускія словы.

Гэтак прайшоў 1916-17 і 1918-19 г... У 1920 годзе адчыніліся ў Менску ў "Юбілейцы" курсы беларусазнаўства, на якія і я запісалася. Ніколі не запомню, як рээалі ў першыя часы маё пачуцьцё лекцыі ў беларускай мове. Я разам з другімі доўга сьмяялася з "простага языка".

Большая палавіна на гэтых курсах было прыйшоўшымі сюды не для ідэі, а проста затым, што "мо' калі і патрэбна будзе". Шмат хто казаў: "Раней ад гэтага беларусіцызму адвучалі, а цяпер ізноў вучаць, як лапці плесьці". І нідзе не знаходзіла я чалавека, які адчыніў-бы мне вочы, хто-б растлумачыў мне, што навокала робіцца, які ідзе рух. Толькі як-бы па інстынкту, я надта спадабала лекцыі ў беларускай мове Смоліча і Ігнатоўскага... Вось з гэтага часу я пазнала, хто такая я"...

**Цахановіч Яўгені:** "Пра сваю бацькаўшчыну я даведаўся яшчэ ў двухклясовай школе, дзе расказываў пра яе нам малым настаўнік. Ня раз ён, каб засьмяшыць нас, гаварыў колькі асаблівых слоў пабеларуску з нейкім націскам на іх, і сам надта сьмяўся... Калі мы запыталі, чаму гэта мы завёмся беларусамі, то настаўнік нам адказваў, што народ, які гаворыць так, як ён гаварыў унасьмешку колькі слоў, даўней заўсёды насіў белую вопратку, надта любіў усё белае, былі ў гэтага народу ў большасьці белыя валасы, затым іх другія народы называлі беларусамі...

Я пазнаў сябе беларусам у 1917 г., бо тагды не забаранялі ўжо так беларускай справы. Ды пры гэтым у нашай вёсцы зарганізаваўся беларускі гурток "Вір", сябрам якога быў і я".

**К. І. Ральцэвіч:** "Я радзілася ў беларускай сям'і, дзе заўсёды гаварылі пабеларуску. Змалку я сама гаварыла пабеларуску. Калі мне прыходзілася спатыкацца з дзецьмі якога-небудзь пана, або вучыцеля, дык я ня толькі ня ўмела з імі гаварыць, але й не разумела іх. Яны ж з гэтае мовы сьмяяліся ды казалі: "Гэтак брыдка гаварыць, гэтак гавораць толькі мужыкі". Посьля, як аддалі мяне ў школу, дзе ўжо вучні гаварылі парасійску, прышлося забывацца свае роднае мовы. Вучыцель пытаўся парасіі́ску ды казаў, каб адказвалі на яго пытаньні парасійску, але ў мяне нехаця вырываліся беларускія словы. За гэта вучыцель караў ды казаў: "Гэтак гавораць толькі мужыкі на вёсцы, а нам трэба вучыцца далікатней гаварыць, на тое і школа існуе". Я нічога не разумела, чаму гэтак вучыцель гаворыць і чаму ён ня любіць гэтых людзей (мужыкоў), якіх я вельмі любіла.

Вучыцель вельмі прыглядаўся за вучнямі, каб яны не гаварылі пабеларуску і самі паміж сабой. Але толькі з вучыцелем і на яго пытаньні мы адказвалі парасійску, а як выходзілі на вуліцу, дык гаварылі пасвойму...

Калі я пабыла ў гімназіі, дык добра навучылася гаварыць парасійску ды стала цурацца свае роднае мовы...

У 1917 г., калі ў мае рукі папалася адна беларуская кніжка, я ніяк не магла чытаць пабеларуску і з труднасьцю разумела. Але як пачала усё больш вучыцца чытаць, дык стала ўсё лепш чытаць і разумець. Аднаго разу я прачытала кніжку, у якой пісалася аб нашай дарагой старонцы. У мяне зарадзілася нешта дарагое к ёй, прабудзілася тое, што было заглушана расійцамі ды расійскімі школамі. А так пачала любіць беларускую мову, што стала ганаравацца ёю".

**Нат. Панамарова:** "Калі я пазнала сябе беларусінкай? Сорамна казаць, але гэта здарылася толькі ў пачатку 1921 г.

Радзілася я, як і мая маці і бабка, у Менску. Усе свае дзіцячыя годы правяла я тутака, выязджаючы ўлетку на нашую вёску ў Вяслаўскім павеце. Тамака, у вёсцы, я чула мову простага народу і добра разумела яе...

Паступіўшы ў гімназію, я там нічога не магла пачуць пра сваю бацькаўшчыну. Вучылі мы аб Полацкім княжасьцьве, аб князёх, аб змаганьні іх з Кіеўшчынай, але ўсё гэта малявалася іншымі хварбамі, у асьвятленьні аднабокім, маскоўскім...

Скончыўшы гімназію, я апынулася, дзякуючы эвакуацыі, у цэнтральнай Расіі. Увосень, летась у 1920 г., я зноў вярнулася ў Менск. Тутака папала ў гурток шчырых беларусаў і першы раз пачула праўдзівае слова аб сваёй бацькаўшчыне...

Сорамна мне ўспомніць цяпер, што я яшчэ ня так даўно казала: "Які беларускі язык? Якая мова? Яе ня было і ня можа быць! Гэта збор пераблытаных расійскіх слоў з значнаю часткай сапсованых польскіх і ўкраінскіх". Аж чырванею я цяпер, пішучы гэтыя словы!..

Чую душой і сьвята веру, што мінулі ліхія часы, што народ наш зойме "свой пачэсны пасад між славянамі".

**Пётра Кавальчук:** "За разьвіцьцём беларускага нацыянальнага руху сачыла царская ўлада... Успамінаецца мне, як я, яшчэ невялічкім хлапчуком (праўда, ужо хадзіў у школу), папаўшы вершы Якуба Коласа, чытаў іх з сваім сябрам у полі, каб ніхто ня бачыў і ня чуў...

Вельмі мала дала мне школа. Там я павінен быў прывыкаць і гаварыць парасійску, а калі прыходзілася сказаць пасвойму, то настаўнік пачынаў крывіць ды сьмяяцца і прыказваў, каб другі раз гэтага ня было. І зусім адбіваў ахвоту да вясковай гаворкі. Што мне сказалі пра Беларусь у школе, дык гэта тое, што паміж насельнікамі Расіі ёсць беларусы, якія атрымалі гэткую назву толькі таму, што прадзеды насілі белую вопратку ды мелі белыя валасы...

У 1918 г. я ўступіў сябром у гурток "Вір", (бач вышэй).

**К. М. Ральцэвіч:** "Я змалку гаварыла пабеларуску бо жыла ў беларускай вёсцы. Матка трохі крычала, каб вучылася гаварыць папольску, або парасійску, але я ёй казала, што гэтак буду гаварыць у нядзелю, а ў будні дзень прасіла яе пазволіць гаварыць папросту. Потым, як пачала вучыцца у школе, то зусім выракла роднае мовы ды саромілася гаварыць пабеларуску. Я лічыла сябе абрусела́й беларускай, што казалі настаўнікі. Я стала зьневажаць сваю родную мову і сьмяялася з беларускіх кніжак. Бо як-жа было паважаць, калі з усіх бакоў казалі, што гэта брыдкае, няцікавае...

Потым, як навучылася чытаць, даваў мне мой дзед беларускія кніжкі, якія ён браў у Аляксандра Ельскага. Вельмі шкадую, што ня помню зьместу тых кніжак але гэта было даўно. Тагды я мала разумела, што беларуская кніжка стане для мяне дарагім дыямэнтам"...

# Беларуская малітва да Маці Божай Вастрабрамскай



Тут, у Вільні, кожную восень праходзяць дні апекі Маці Божай Вастрабрамскай, г. зв. Заступніцтва. Сёлета, як і кожны год, актыўны ўдзел у днях прымалі і парафіяне нашага беларускага каталіцкага касцёла Святога Барталамея, што ў Вільні на Зарэччы.

Людзей было шмат, па-гэтаму набажэнства, якое меркавалася правесці ў капліцы перад абразом Маці Божай Вастрабрамскай, было праведзена на роднай беларускай мове ў касцёле Святой Тарэсы, што пад адным дахам з капліцай. Праводзіў імшу ксёндз Ян Шуткевіч, ксёндз-рэктар касцёла Св. Барталамея. На набажэнстве прысутнічалі і вучні беларускай школы імя Ф. Скарыны.

**На здымках:**

1. Перад вострай брамай.

2. Сёстры Кавальчук, вучаніцы беларускай школы, на набажэнстве.

3. Ідзе беларускамоўная імша.

***Юры Гіль, старшыня ТБМ Віленскага краю.***

***Праект***

# План работы

## Грамадскага аб’яднання “Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны” на 2004 год

| | | | |
|---|---|---|---|
| ***1.*** | **Арганізацыя курсаў** па культуры беларускай мовы | студзень-чэрвень, верасень-снежань | Сакратарыят, Л. Дзіцэвіч, абл. структуры ТБМ |
| ***2.*** | Удзел у агульнанацыянальным форуме **праваабаронцаў** | студзень | Д. Тушынскі |
| ***3.*** | **Праца па стварэнні кампутарнай праграмы** па кадыфікацыі і праграмы для праверкі арфаграфіі ў руска-беларускіх перакладах | на працягу года | С. Кручкоў |
| ***4.*** | **Работа па пашырэнні кола падпісчыкаў** на “Наша слова”, “Новы час” і інш. беларускамоўныя газеты і часопісы | на працягу года | Сакратарыят, першасныя суполкі ТБМ |
| ***5.*** | **Арганізацыя працы камісіяў ТБМ** (праводзіць пасяджэнні 1 раз на месяц) | на працягу года | старшыні камісіяў ТБМ |
| ***6.*** | **Асветніцка-педагагічная праца з бацькамі**, дзеці якіх пойдуць у д/с і 1-ыя класы ў 2003-2004 навучальным годзе | на працягу года | бацькоўскі камітэт, адукацыйная камісія |
| ***7.*** | **Супрацоўніцтва** з уладнымі структурамі па выкананні Пастановы Міністэрства адукацыі Беларусі (№ 48 ад 27.08.2001г.) “*Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі*”, Закона *“Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь”*: унясенне паправак у “Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь”, каардынацыя Сакратарыятам збору подпісаў грамадзян з патрабаваннем адкрыцця беларускамоўных навучальных устаноў. | на працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| ***8.*** | **Супрацоўніцтва** з Дзяржстандартам па пытанні выкарыстання дзяржаўнай беларускай мовы ў інструкцыях і на ўпакоўках тавараў, якія маюць абарачэнне на тэрыторыі Беларусі. | на працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| ***9.*** | **Праца з прадпрыемствамі** па ўкараненні беларускамоўнага афармлення выпусканай прадукцыі. | на працягу года | Сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| ***10.*** | Правядзенне **рэспубліканскага конкурсу** “*Найлепшы руплівец роднага слова*” | на працягу года | абласныя Рады ТБМ, Менская гар. Рада ТБМ сумесна з СП Беларусі і адпаведнымі аддзеламі адукацыі рэгіёнаў |
| ***11.*** | **Правядзенне гістарычных семінараў.** | студзень-травень | Сакратарыят Л. Дзіцэвіч, Т. Грузнова |
| ***12.*** | Правядзенне семінара **“Я магу жыць лепей”**. | на працягу года | Сакратарыят (Л. Дзіцэвіч) |
| ***13.*** | Ушанаванне памяці Васіля Быкава: | | |
| | ➢ Выдаць кішэнны каляндарык на 2004 год | студзень | Сакратарыят |
| | ➢ Выдаць плакат | студзень | Сакратарыят |
| | ➢ Правесці вечарыну да 80-х угодкаў народнага пісьменніка | чэрвень | Сакратарыят |
| ***14.*** | Ушанаванне памяці ды святкаванне **80-х угодкаў** нараджэння **Артура Вольскага** | верасень | Сакратарыят |
| ***15.*** | **Дзень роднай мовы.** Урачыстыя мерапрыемствы. | 21 лютага | Кошчанка |
| ***16.*** | Адзначыць **юбілейныя даты** публікацыямі ў “Нашым слове” і ў “Новым часе”: | | |
| | ➢ 135 гадоў з дня народзінаў Ядвігіна Ш. | студзень | Ул. Содаль |
| | ➢ 140 гадоў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі | сакавік | Маладзечанская гарадская арг. |
| | ➢ 85 гадоў з дня заснавання Віленскай беларускай гімназіі | травень | ТБМ Віленскага краю |
| | ➢ 80 гадоў ад пачатку беларусізацыі ў БССР | ліпень | Сакратарыят, Леанід Лыч |
| | ➢ 130 гадоў Аляксандру Уласаву | жнівень | Ул. Содаль, Сакратарыят |
| | ➢ 145 гадоў з дня нараджэння Браніслава Эпімах-Шыпілы | верасень | Сакратарыят |

*Праект плану зацверджны на паседжанні Сакратарыяту і прапануецца для абмеркавання і дапрацоўкі першасным структурам ТБМ. Так, на момант падрыхтоўкі да публікацыі ўжо паступілі прапановы Лідскай гарадской і Баранавіцкай арганізацый ТБМ* ***аб шырокім адзначэнні 210-х угодкаў паўстання Тадэвуша Касцюшкі.***



# IX З'ЕЗД ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ" VII З'ЕЗД ПАРТЫІ БНФ

*(Заканчэнне. Пачатак на ст.1.)*

Выбары старшыні ГА БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ праходзілі на альтэрнатыўнай аснове. Гэтую самую альтэрнатыву Вінцуку Вячорку склаў доктар біялагічных навук, прафесар, тэарэтык беларускага нацыянальнага руху, аўтар шэрагу прац па распрацоўцы беларускай нацыянальнай ідэі Алесь Астроўскі з Горадні.

У выніку таемнага галасавання перамогу атрымаў усё-такі **Вінцук Вячорка**. За яго прагаласавала 149 дэлегатаў. За Алеся Астроўскага прагаласавала 55 дэлегатаў.

Таемным галасаваннем былі абраныя чатыры намеснікі старшыні і новы склад Сойму. Намеснікамі старшыні абраныя: **Юрась Хадыка, Віктар Івашкевіч, Аляксей Янукевіч і Алесь Міхалевіч.**

Імя Алеся Міхалевіча свежае ў кіраўніцтве БНФ, таму мы лічым патрэбным прывесці яго кароткую біяграфію.



**Перадвыбарчы выступ Вінцука Вячоркі**



**Сваю праграму выкладае Алесь Астроўскі**

### Алесь Міхалевіч

*Нарадзіўся 15 траўня 1975 года. Бацька Анатоль Аляксеевіч, інжынер. Маці Людміла Стэфанаўна, генетык, кандыдат біялагічных навук. Жонка Мілана, выкладчык ангельскай мовы Беларускага Дзяржаўнага Педагагічнага Універсітэта. Дачка Леся-Стэфанія (2000 г. н.)*

*Выпускнік Беларускага Гуманітарнага Ліцэя імя Якуба Коласа (1992 г., першы выпуск). У 1997 годзе скончыў Юрыдычны факультэт Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта. Палітолаг-юрыст. Пад час навучання стажыраваўся ў Варшаўскім (Польшча) і Оксфардскім (Англія) універсітэтах. Свабодна валодае ангельскай і польскай мовамі.*

*У БНФ з 1993 г. (пасведчаньне № 706 ад 21.06.1993 г.)*

*У Партыі БНФ з дня заснавальня. У 1993-1994 гг. – сябра Управы БНФ. У 1994 г. быў сябрам ініцыятыўнай групы па вылучэньні Зянона Пазняка ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь.*

*1995-1997 гг. – старшыня Задзіночання Беларускіх Студэнтаў. Арганізатар шэрагу акцыяў у абарону незалежнасці, у абарону правоў студэнтаў (лістапад 1994 – арганізатар студэнцкай акцыі "Дзякуй прэзідэнту за хлеб і малако", за што ледзь не быў выключаны з БДУ).*

*З 1996 г. старшыня Міжнароднага грамадзкага аб'яднання "Моладзевы Інфармацыйны Цэнтар", зліквідаванага ўладамі напрыканцы 2001 г.*

*З снежня 2000 г. намеснік старшыні, а з лістапада 2002 г. старшыня Менскай абласной арганізацыі Партыі БНФ. У сакавіку 2003 г. ў горадзе Мар'іна Горка выбраны дэпутатам Пухавіцкага раённага савета. Выдавец мясцовай газеты "Рэгіён". Каардынатар Асамблеі дэпутатаў мясцовых саветаў. Працуе ў беларуска-польскай прыватнай турыстычнай фірме.*

*У лістападзе 2003 г. канферэнцыяй Менскай абласной арганізацыі Партыі БНФ вылучаны на пасаду намесніка старшыні Партыі БНФ.*

### Спіс Соймаў ГА БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ, абраных 20.12.2003 г.

1. Антусевіч Сяргей -- Горадня
2. Арлоў Уладзімір – Менск
3. Арэшка Вацлаў -- Менск
4. Барадулін Рыгор – Менск
5. Берніковіч Яраслаў – Глыбоцкі р-н
6. Бяляцкі Алесь – Менск
7. Вячорка Вінцук – Менск
8. Главацкіх Васіль – Наваполацак
9. Голубеў Валянцін – Менск
10. Губарэвіч Юрась – Белаазёрск
11. Жаліба Барыс – Менск
12. Жучкоў Алесь – Менск
13. Жынь Кастусь – Горадня
14. Зянковіч Юрась – Менскі р-н
15. Івашкевіч Віктар – Менск
16. Кавалец Аляксей – Менск
17. Кастусёў Рыгор – Шклоў
18. Кішкурна Уладзімір – Менск
19. Красоўская Наталя – Менск
20. Красько Уладзімір – Берасьце
21. Лабковіч Уладзімір – Менск
22. Лагвінец Алесь – Менск
23. Леўчанкова Ганна – Барань
24. Мальчык Сяргей – Горадня
25. Марачкін Аляксей – Менск
26. Марозаў Іван – Віцебск
27. Мезяк Віктар – Баранавічы
28. Мікульская Дзіяна – Менск
29. Міхалевіч Аляксей –Мар'іна Горка
30. Міхноў Сяргей – Менск
31. Мудрачэнка Сяргей – Менск
32. Мухіна Леанарда – Менск
33. Пуціцкі Валеры –Рэчыца
34. Раманішка Віктар – Светлагорск
35. Саверчанка Іван – Менск
36. Салаўёў Зміцер – Магілёў
37. Салаш Сяргей – Барысаў
38. Саротнік Андрэй – Салігорскі р-н
39. Свяцкая Валянціна – Менск
40. Смолікаў Кастусь – Віцебск
41. Сюдак Аляксей – Вілейка
42. Сямдзянава Галіна – Менск
43. Трыгубовіч Валянціна – Менск
44. Хадыка Юры – Менск
45. Шпунтоў Кастусь -- Мар'іна Горка
46. Шутаў Алесь – Ворша
47. Шэга Іван – Слонім
48. Шэйка Дзяніс – Бабруйск
49. Янукевіч Аляксей - Менск

Сярод новага складу Сойму ўсяго два сябры Рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны": Уладзімір Арлоў і сам Вінцук Вячорка. Можна канстатаваць, што кадрава абодва грамадскія аб'яднанні канчаткова разышліся, хаця на месцах многія шараговыя сябры ўваходзяць і ў ТБМ, і ў БНФ,

На з'ездзе быў прыняты шэраг дакументаў, сярод якіх Заява 7-га з'езду Партыі БНФ "Спыніць антыбеларускую палітыку ўладаў", у якой закранаюцца праблемы беларускай мовы, гісторыі, культуры і адукацыі.

*Яраслаў Грынкевіч.*

# З'езд Кансерватыўна - Хрысціянскай Партыі БНФ

***14 снежня 2003 г. адбыўся 8-мы з'езд Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і 6-ты з'езд Кансерватыўна - Хрысціянскай Партыі БНФ.***

***На з'езде было 144 далегаты, а таксама госці і прэса.***

***Зянон Пазьняк, аднагалосна абраны старшынём Беларускага Народнага Фронту і Кансерватыўна Хрысціянскай Партыі БНФ.***

***Намеснікамі старшыні абраны Юрась Беленькі і Сяргей Папкоў, абраны Сойм у складзе 37 сяброў і рэвізійная камісія.***

***З'езд прыняў шэраг дакументаў, заяву пра стан і праблемы беларускай адукацыі, у якой у прыватнасці гаворыцца:***

*"Пасьля аднаўленьня Беларускай дзяржаўнай незалежнасьці ў 1991 годзе пачалося адраджэньне беларускай нацыянальнай адукацыі. Спынілася чужая палітыка татальнай русіфікацыі, у Беларусі пачала дзейнічаць зноў беларуская школа, аднавілася навучаньне на беларускай мове. З кожным годам усё больш адукацыйных праграмаў сярэдне-спэцыяльных і вышэйшых навучальных установаў выкладалася пабеларуску. Значна павялічыўся аб'ём беларускамоўнага кнігадрукаваньня. Гэта быў працэс нармалізацыі нацыянальнага жыцьця: новае пакаленьне беларусаў вярталася ў сямью эўрапейскіх народаў, набывала забароненыя раней культурныя каштоўнасьці, пазбаўлялася ад штучнай арыентацыі на чужую традыцыю і чужую мову. Нягледзячы на непасьлядоўнасьць дзяржаўнай палітыкі ў гэтай галіне, нягле-дзячы на тое, што большая частка гэтай культурніцкай працы трымалася на энтузіязме беларусіх патрыётаў, а не на дзеянь-нях чынавенства – былі дасягнуты вялікія посьпехі, ішло духоўнае аздараўленьне нацыі, значна падвысіўся ўзровень адукацыі.*

*Гэты працэс быў гвалтоўна спынены ў 1995 годзе... Масква была напалохана посьпехамі беларускай адукацыі і ўзмацненьнем арыентацыі маладых беларусаў на эўрапейскую культурную традыцыю (уласьцівую беларускай культуры на працягу яе гістарычнага развіцьця), а таксама ўсьведамленьнем маладога пакаленьня беларусаў прыналежнасьці беларускай культуры да агульнаэўрапейскіх культурных каштоўнасьцяў, а не да чужой нам расейскай імпэрскай традыцыі і мэнтальнасьці..."*

Адзначаецца, што беларускія ўлады разгарнулі *"сапраўдную вайну супраць беларускай нацыянальнай культуры, мовы і адукацыі... Мовай адукацыі зноў, як за часы СССР, стала чужая расейская мова. ...Былі спаленыя сотні тысячаў беларускіх кніг – падручнікі і навучальныя дапаможнікі. Былі зачыненыя аўтарытэтныя беларускамоўныя літаратурныя часопісы, спыненыя беларускамоўныя навучальныя тэле- і радыёпраграмы (стала немагчымай нават самаадукацыя на беларускай мове). Жорстка перасьледуюць пэдагогаў, якія імкнуцца працягваць адукацыю на беларускай мове, паліцэйскімі мэтадамі душаць любыя пратэсты і патрабаваньні вучыць дзяцей пабеларуску. На ўсіх узроўнях афіцыйнай прапаганды зьняважліва заяўляюць пра "недаразьвітасьць беларускай мовы і культуры", "адсутнасьць беларускай культурнай традыцыі", пра "перавагі расейскай мовы і культуры", гучыць псэўданавуковая, антыгістарычная і агрэсіўна-шавіністычная дэмагогія нянавісьці...*

*...Трэба адзначыць, што русіфікацыя зьяўляецца адным з мэтадаў разбурэньня Беларускай незалежнай дзяржавы, сродкам дэмаралізацыі беларускага грамадства і пераарыентацыі беларусаў з паўнавартаснага нацыянальнага жыцьця на мізэрнае існаваньне ў якасьці прыдатку расейскай імпэрскай псэўдакультурнай мадэлі... ...Вайна супраць беларускай мовы, культуры і адукацыі вядзецца ў рэчышчы антыдэмакратычнай і антыэўрапейскай палітыкі прарасейскага рэжыму. Выдаецца шэраг часопісаў, вядуцца тэле- і радыёпраграмы (усё на расейскае мове), дзе афіцыйная прапаганда стварае адмоўны вобраз заходняй цывілізацыі падае фальшывую інфармацыю пра палітыку, культуру і жыцьцё ў цывілізаваных краінах. У навучальных установах маладых людзей прымусам запісваюць у аднолёныя камуністычныя маладзёвыя арганізацыі, у якіх адбываецца антыбеларуская, антызаходняя, прарасейская індактрынацыя моладзі. Так, увесну сёлета па школах Беларусі прайшла шумная кампанія (на расейскай мове) "у падтрымку Садама Хусэйна і супраць амэрыканскай агрэсіі".*

*Уражвае, што міжнародныя арганізацыі, палітычнае кіраўніцтва, аўтарытэтныя прадстаўнікі культуры цывілізаваных дэмакратычных краінаў ані разу не выступілі супраць палітыкі зьнішчэньня беларускай мовы, культуры і адукацыі... Лібэральны свет маўчыць, хаця даўно і рэгулярна атрымоўвае ад беларускага грамадзтва поўную інфармацыю аб злачыннай практыцы русіфікацыі. У міжнародных заявах ... гучаць іншыя аспэкты: бароніца нібыта "дэмакратычная прэса"... нібыта "дэмакратычная апазыцыя"... У беларускай інтэлігенцыі склалася ўражаньне, што краіны заходняй цывілізацыі ўжо аддалі беларускі народ на расправу расейскай імпэрыі, што вайну супраць нашай мовы, культуры і адукацыі імкнуцца не заўважаць, зыходзячы з іншых, несправядлівых інтарэсаў. Нават ЮНЕСКА ва ўмовах апошняй кампаніі ў падтрымку аўтэнтычных моваў і культураў сьвету ані разу не выступіла супраць палітыкі этнацыду ў Беларусі. На працягу апошніх месяцаў у Менску разыгрываецца драма, гвалтоўна парушаюцца правы беларускіх дзяцей на нацыянальную адукацыю. Улады выкінулі дзяцей на вуліцу, настаўнікі і бацькі працягваюць навучальны працэс фактычна падпольна, у непрыстасаваных памяшканьнях. І няма ніякой міжнароднай рэакцыі!.."*



**У мукулатуру ідуць амаль новыя беларускамоўныя падручнікі. Здымак зроблены на Лідскім складзе другаснай сыравіны.**

# РЫЧАРД ГРУША

*Памятны знак з скарынаўскай сімволікай, устаноўлены ў Полацку да Дня беларускага пісьменства і друку ў 2003 г.*

*Памятны знак Адаму Міцкевічу, устаноўлены ў Наваградку ў 2002 г.*





*Памятны знак Ігнату Дамейку, устаноўлены ў в. Крупава, Лідскага раёна ў 2002 г. да 200-годдзя з дня народзінаў*



*"Дабраславенне зямлі". Дрэва, таполя. Лідскі гістарычна-мастацкі музей.*




*Мемарыяльная дошка ў памяць трох ксяндзоў Лідскага павету, расстраляных за ўдзел у паўстанні 1863 г., устаноўленая ў капліцы Св. Барбары ў Лідзе ў 2003 г.*




*Надмагільны помнік па Антонію Гіпаліту Дамейку, бацьку Ігната Дамейкі, устаноўлены ў Міры ў 2002 г.*



*Памятны знак Іосіфу Гашкевічу ў в. Малі Астравецкага раёна, устаноўлены ў 2002 г.*

| | СТУДЗЕНЬ | ЛЮТЫ | САКАВІК | КРАСАВІК | ТРАВЕНЬ | ЧЭРВЕНЬ |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 |
| А | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 |
| С | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 |
| Ч | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 |
| П | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 |
| Сб | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 |
| Н | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 |

# НАША СЛОВА 2004

# ДЛЯ БЕЛАРУСІ





Памятны знак, устаноўлены ў Нясвіжы да фестывалю сярэднявечнай культуры ў 2003 г.



Памятны знак у гонар роды Агінскіх, устаноўлены ў Залессі ў 2003 г.



Памятны знак да 120 -годдзя Янкі Быліны, устаноўлены ў Клюшчанах Астравецкага раёна ў 2003 г.



Памятны знак да 180-годдзя Уладзіслава Сыракомлі, устаноўлены ў Смольгаве Любаньскага раёна ў 2003 г.




Памятны знак, устаноўлены ў 2003 г. да 540-годдзя Пружанаў



Помнік на месцы расстрэлу лідскіх яўрэяў, устаноўлены ў Лідзе ў 2003 г.



Абеліск на месцы Наваградскага катла 1941 г., устаноўлены ў 2003 г.




Памятны знак да 2000-годдзя хрысціянства, устаноўлены ў Лідзе ў 2000 г.

| ЛІПЕНЬ | ЖНІВЕНЬ | ВЕРАСЕНЬ | КАСТРЫЧНІК | ЛІСТАПАД | СНЕЖАНЬ | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | П |
| 6 13 20 27 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | А |
| 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | С |
| 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | Ч |
| 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | П |
| 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | Сб |
| 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | Н |

**2004** **НАША СЛОВА**

# Плянэр імя Язэпа Драздовіча торыць новыя сцяжыны

У выставачнай зале Наваполацкай цэнтральнай бібліятэкі імя Ул. Маякоўскага, адкрылася і будзе працаваць да 14 студзеня 2004 г. выстава мастакоў, якія прапануюць гледачам палотны, створаныя сёлетнім летам падчас плянэру імя Язэпа Драздовіча, што ладзіцца кожны год з ініцыятывы аднайменнага культурна-асветніцкага цэнтра, начале якога старшыня Шаркаўшчынскай раённай арганізацыі ТБМ Ада Райчонак, а таксама творчых суполак "Пагоня" і "Віцебская акварэль". Гэты, VIII-ы чарговы плянэр пад назовам "На зямлі Язэпа Драздовіча – зямлі талентаў, прыгажосці і харастваў" крочыў па маляўнічых мясцінах Шаркаўшчынскай і Браслаўскай зямлі і быў прымеркаваны да 115-х угодкаў славутага мастака.

Сваімі ўражаннямі ад плянэру дзеліцца адзін з яго ўдзельнікаў Ігар Марачкін: "Спякотныя ліпеньскія дні, безліч камароў. Першае мастакоўскае прыстанішча – Малыя Алашкі. Мясціна, пра якую мусіць ведаць кожны, каму дарагая Бацькаўшчына. Менавіта тут жыў і працаваў наш выдатны садавод Іван Сікора. Якраз на ягонай колішняй сядзібе наша палатачнае прыстанішча. Да паслуг мастакоў і 100-гадовы дом Івана Сікоры – унікальны драўляны будынак на дубовых калодах. Цяпер гэтай сядзібай апякуецца культурна-асветніцкі цэнтр імя Язэпа Драздовіча, які змог выкупіць яе. У Малых Алашках жыве сын Івана Сікоры Віктар. Віктар – сама жывая гісторыя. Як дзве кроплі вады, падобны да бацькі. Малюем яго і гадзінамі слухаем ягоныя расповеды пра час, эпоху, нялёгкае жыццё.



Ігар Марачкін. На радзіме Івана Сікоры

На палотны і паперу кладуцца маляўнічыя краявіды Вялікіх і Малых Алашак. Калісьці, як расказваюць вяскоўцы, гэта былі непраходныя мясціны. З неба гэтулькі налівала вады, што ў настаўнікаў тутэйшай школы адгнівалі падалы ў паліто, не паспявалі высыхаць. Цяпер у прыродзе ўсё памянялася, усё змянілася. Мінулым летам пагарэлі балоты так і не дачакаўшыся дождждыку, хоць нейкі чараўнік сядзеў пару тыдняў на плошчы мястэчка і прасіў Бога, каб той паслаў на гэтую зямель-ку хоць трохі божай расы.

У ваколіцах Алашак – цёплае, ласкавае, прыгожае возера. Гэта паратунак ад спякоты. Кожны надвячорак – імправізаваная выстава на глухой сцяне дома Івана Сікоры. Паказваем свае эцюды, замалёўкі. Вяскоўцам падабаецца амаль усё, што напісана фарбамі. Многія хочуць набыць творы, ды няма за што. Мастакі ж ахвяруюць ім некалькі сваіх прац.

А тым часам трэба збірацца ў дарогу. Нам належыць кіравацца на радзіму выдатнага жывапісца і земляка Пётры Сергіевіча ў вёску Стаўрова, што на Браслаўшчыне. Нечакана, у самы апошні момант перад ад'ездам, нам падказваюць, што тут, у Малых Алашках, жыве ўжо шаноўнага веку Шура Стрыжонак, жанчына, якую некалі кахаў мастак і хацеў з ёй пабрацца. Але маладая дзяўчына спалохалася гарадскога жыцця ў Вільні і не пайшла за яго. Як памятку пра тое каханне захоўвала ўсё жыццё партрэт, напісаны мастаком у 20-я гады мінулага стагоддзя. Жанчына пагаджаецца прадаць культурна-асветніцкаму цэнтру імя Язэпа Драздовіча свой партрэт, па-майстэрску напісаны знакамітым майстрам. Тут жа, у Малых Алашках, пашчасціла натрапіць яшчэ на тры творы Пётры Сергіевіча. Прыемна было, што яго памятаюць землякі і высока цэняць ягоны талент. Пры добрым настроі ды з такім багатым набыткам кіруемся далей. Неўзабаве трапляем у запаведнае каралеўства – нацыянальны парк "Браслаўскія азёры". Наведваем колішнюю сядзібу Пётры Сергіевіча, сустракаемся з людзьмі, якія яго добра ведалі. Едзем уздоўж знакамітага Богінскага возера, шукаем, дзе прыпыніцца. Трапляем на добра абсталяваную стаянку і, уражаныя прыгажосцю гэтых мясцінаў, працягваем працаваць. Цікава, што праліўныя дажджы, якія пачаліся скрозь па краіне, нейкім чынам міналі нашае прыстанішча. А калі і былі, то вельмі непрацяглыя. Запомнілася неба. Такога, незвычайна таямнічага і трывожнага, ніхто з нас дагэтуль не бачыў. А яшчэ застанецца, як добры ўспамін, шчырасць сяброўства і паразуменне, якія ядналі ўсіх удзельнікаў плянэру."

Удзельнікі плянэру каля дома Івана Сікоры



Валер Шчасны. У Сікоравым садзе

Згадаем імёны гэтых мастакоў: Ілона Барадуліна, Георг Ліхтаровіч, Аляксей і Ігар Марачкіны, Юля і Алесь Шатэрнікі (з Менску), Алеся Гантар, Аляксандар Карпан, Міхась Ляўковіч, Алег Скавародка (з Віцебску), Валер Шчасны з Верхнядзвінску, Віктар Крук з Шаркаўшчыны, Юрась Платонаў з Гомеля, Янка Рамановіч з вёскі Моталь.

Выстава ў Наваполацку, фактычна, трэцяя, калі лічыць, што ёй папярэднічалі — паказ твораў мясцовым жыхарам пад час плянэру, экспазіцыя, разгорнутая ў выставачнай зале Віцебскай філіі Беларускага саюза мастакоў, адкуль выстава была перавезеная ў Наваполацк. Акрамя плянэрных твораў мастакоў, тут выстаўлены ўжо згаданы партрэт Шуры, напісаны Пётрам Сергіевічам. Пры адкрыцці выставы палачане і навапалачане маглі не толькі пабачыць працы вядомых ім творцаў, адкрыць новыя імёны, але і сустрэцца з самімі мастакамі. Сярод іх можна было заўважыць Міхася Ляўковіча, Алеся Шатэрніка, Аляксандра Карпана, Валера Шчаснага, Аляксея Марачкіна. З цікавасцю сустрэлі ўдзельнікі імпрэзы выступы мастакоў, а таксама прафесійнае слова выдомага мастацтвазнаўца Пётры Васілеўскага. Сваімі ўражаннямі ад выставы падзяліліся мясцовыя жыхары: пісьменніца Ірына Жарнасек і Эдмунд Гірын. Дарэчы, удзельнікі імпрэзы пад час адкрыцця выставы атрымалі падарунак – апошнія нумары газеты Таварыства беларускай мовы "Новы Час". А мастак Аляксей Марачкін прэзентаваў сваю аўтаманаграфію, якая выклікала цікавасць прысутных.



Юры Платонаў. Партрэт Віктара Сікоры



Шура Стрыжонак, Ада Райчонак, Аляксей Марачкін з партрэтам маладой Шуры

Напрыканцы студзеня 2004 года выстава па выніках VIII-га плянэру імя Язэпа Драздовіча пераедзе ў сталіцу. З ёй змогуць пазнаёміцца менчукі. Пасля гэтага ўдзельнікі плянэру мяркуюць паказаць яе ў суседняй Расіі, у Маскве. Пашырэнне геаграфіі плянэрных выстаў ужо становіцца добрай традыцыяй.

*Ірына Ляксеева.*



Аляксандр Карпан. Нацюрморт



Міхась Ляўковіч. Краявід





# Свята вёскі Хільчыцы







Сялянская гаспадарка Міхася Рыгоравіча і Кацярыны Фёдараўнай Шрубаў адзначыла свята вёскі Хільчыцы, што у Жыткавіцкім раёні Гомельскай вобласці. Працавітыя палешуку танчылі і спявалі беларускія танцы і песні проста сярод вуліцы.

Усе выйшлі на свята. Сваім канцэртам радаваў вяскоўцаў хор з Турава пад кіраўніцтвам Івана Шруба і госці ад Беларускага Саюза фалькларыстаў з Менска: Барыс Герагалаў гарманіст, Алесь Свірскі співак і баяніст, танчыў народныя беларусія танцы і біў у бубен Мікола Котаў.

Смакавітым палешуцкім словам дзякавалі жаночкі і мужчынкі звычайнай, прыгожай вёсачкі Хільчыцы.

З павагай

*Мікола Котаў.*



# ЗВЯЗДА

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

На мінулым тыдні выйшаў 25 000-ны нумар беларускай газеты "ЗВЯЗДА", флагмана беларускамоўнага друку, як ў савецкі час, так і ў гады незалежнасці.

Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуюць калег-звяздоўцаў з чарговым грандыёзным рубяжом і жадаюць да 30 000 нумара 300 000 накладу.

*Сакратарыят ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны", рэдакыя газеты "Наша слова".*

## Віншуем сяброў ТБМ, што нарадзіліся ў студзені

1. Аверына Іна
2. Антаноўскі Мікалай
3. Антанюк Ян
4. Апейка Марыя
5. Багданкевіч Святлана
6. Бакіноўскі Валянцін
7. Барткевіч Таццяна
8. Барысаў Лявон
9. Батура Вольга
10. Бахір Алена
11. Баяровіч Мар'ян
12. Булыга Міхаіл
13. Бурбоўская Алена
14. Бяліцкая Ганна
15. Бяляева Кацярына
16. Варатынская Галіна
17. Варонька Ніна
18. Віданава Ірына
19. Водзіч Таццяна
20. Гайдук Марыя
21. Гапеева Вальжына
22. Гарановіч Віталь
23. Гардзіенка Ала
24. Гедроіць Аляксандр
25. Гельвей Валянціна
26. Гіль Юры
27. Грузнова Тамара
28. Грышкевіч Лявон
29. Грэбень Раіса
30. Гурская Людміла
31. Дзям'янаў Аляксандр
32. Домаш Сямён
33. Дуброўская Наталля
34. Езавіт Т.
35. Жылінская Святлана
36. Жынь Канстанцін
37. Закрэўская Ніна
38. Зарубава Ганна
39. Зімніцкая Ганна
40. Івановіч Кацярына
41. Ігнатчык Алег
42. Іпатава Вольга
43. Казак Валянціна
44. Казак Міхась
45. Казак Сяргей
46. Карэнька Людміла
47. Каспяровіч Ілля
48. Каяла Уладзімір
49. Кізееў Ігар
50. Клімуць Яраслаў
51. Кожан Кліменцій
52. Корнеў Павел
53. Котаў Павел
54. Красоўскі Лявон
55. Красоцкі Ян
56. Крывальцевіч Мікола
57. Курчанава Ларыса
58. Кучынская Галіна
59. Лазарэнкаў Валянцін
60. Лазюк Аляксандр
61. Ларычаў Алег
62. Ліцьвінчук Аляксей
63. Ліцьвінчук Анатоль
64. Лобец Алесь
65. Лысенак Р.
66. Лысы Аляксандр
67. Люліна Алена
68. Малаш Юрый
69. Малышава Людміла
70. Маляўка Марыя
71. Мельнікаў Юры
72. Міляшкевіч Яраслаў
73. Мінько Мірына
74. Мішкель Станіслаў
75. Мялешка Віктар
76. Навагродскі Мечыслаў
77. Навахрост Кацярына
78. Нікіцін Аляксандр
79. Норка Алеся
80. Панізовіч Марат
81. Патаранскі Сяргей
82. Пляхневіч Тамара
83. Пратасеня Юрый
84. Пришчыц Валянціна
85. Пясецкі Генадзь
86. Пячкоўскі Франц
87. Рабянок Дзяніс
88. Рамановіч Вераніка
89. Руцкая А.
90. Рымша Сяргей
91. Семянчук Альбіна
92. Сівіцкі Уладзімір
93. Скрыпко М.
94. Судак Вікторыя
95. Сушчэня Анатоль
96. Сяргейчык Аляксей
97. Тычына Міхась
98. Федзюшка Надзея
99. Яначкін Ігар
100. Янушкевіч Леанід

## У МЕНСКУ АДБЫЎСЯ ЎСТАНОЎЧЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ ФОТАМАСТАЦТВА

20 снежня ў Менску, у Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы, адбыўся ўстаноўчы з'езд Беларускага грамадскага аб'яднання фотамастацтва (БГАФ).

Каля 200 фотамайстроў з усіх рэгіёнаў краіны зацвердзілі дакументы новага грамадскага аб'яднання, выбралі яго савет і старшыню.

У інтэрв'ю БелаПАН старшыня БГАФ Вадзім Качан зазначыў, што неўзабаве ў Міністэрства юстыцыі будуць перададзены дакументы на рэгістрацыю новага грамадскага аб'яднання. Паводле яго слоў, галоўнымі кірункамі дзейнасці БГАФ стануць папулярызацыя фатаграфіі, як віда мастацтва, для чаго прапануецца шырокая выставачная дзейнасць, адкрыццё сайта аб'яднання ў інтэрнеце, выданне газеты, альманаха і альбомаў, а таксама стварэнне айчыннай сістэмы адукацыі ў галіне фотамастацтва.

## У МЕНСКУ АДКРЫЛАСЯ ВЫСТАВА СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ФАТАГРАФІІ "ПРАФОТААРТ" І АДБЫЛАСЯ ПРЭЗЕНТАЦЫЯ ФОТАКАЛЕНДАРА НА 2004 ГОД

20 снежня ў Менску, у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, адкрылася выстава сучаснай беларускай фатаграфіі "ПраФотаАрт" і адбылася прэзентацыя фотакалендара на 2004 год.

На выставе прадстаўлены 76 работ (каля 50 аўтараў). Прычым, экспанаваныя творы адлюстроўваюць розныя кірункі сучаснага айчыннага фотамастацтва. Тут выстаўлены рэкламныя працы, творы канцэптуальнага фотамастацтва, а таксама традыцыйнай класічнай фатаграфіі.

У календар укючаны 13 работ вядомых і маладых аўтараў, у тым ліку Сяргея Кавалёва, Аляксея Паўлюця, Валерыя Сібрыкава, Аляксандры Кацьер, Уладзіміра Прыгарніцкага, Данілы Парнюка, Наталлі Багдановіч і Аксаны Грыбко. Яны дэманструюць нацюрморт і гарадскія замалёўкі, аб'ект-настальгію і фантасмагарычнае бачанне, элегічны пейзаж, свяшчэнныя руіны і суб'ектыўны рэпартаж.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

**Адказы на крыжаванку са ст. 12.**

**Па гарызанталях:** 3.Парэнчы. 5.Акладка. 8.Гаспадарнік. 11.Імжа. 12.Авой. 13.Цясьляр. 15.Сябра. 16.Арэлі. 17.Шум. 19.Трэба. 20.Екоча. 22.Лях.25.Яліна. 26.Крама. 27.Карынка. 30.Лёха. 31.Кмін. 32.Карчмарачка. 35.Облаяла. 36.Сялянка.

**Па вертыкалях:** 1.Рэха. 2.Палі. 3.Прымусь. 4.Чапля. 6.Кірля. 7.Адмовіў. 8.Гарбатнічак. 9.Дзьму. 10.Карэгатарка. 13.Цабэрак. 14.Разорка. 17.Шал. 18.Мех. 21.Вясёлка. 23.Ярына. 24.Балейка. 28. Адчал. 29.Краля. 33.АМАП (аддзел міліцыі адмысловага прызначэння). 34. Кіях.



№ 48 (635) 24 СНЕЖНЯ 2003 г. Наша слова

С. Квецень

# ШЛЯХ: ТВАРЫ. ДУМКІ. ГАЛАСЫ.

## (Рыфмаваная гісторыя ў адценнях беларускага духу)

*(Працяг. Пачатак у папяр. нум.)*

### 15. СЛОВА

Яшчэ калісьці да Арды
Была вялікая замова?
- А ці не час пачаць, браты,
Пра Ігара старое слова?

Знайшла задума святара
І ўчапілася трывала.
Каля Дзвіны, а мо, Дняпра
Уголас гэтак прагучала.

І тут дурыла сатана,
А вецер звадаю гаркавіў.
Не, не дарэмна ўспамінаў
Пясняр з тугой аб Усяславе.

Быў Полацк на сваім вяку
За рупны рух яму удзячны.
Балела ўсё па земляку –
Падобных свет ужо не бачыў.

І курчылася ў моры зла
Князёў гарачлівая зграя,
Бо сілу рускую звяла
Іх сварка нейкая дурная.

Каб вырвацца за немач слоў,
Грымела сэрца доўгім звонам.
О, дадзена яму было
Адчуць раней бяду палону.

Ад болю нельга не стагнаць –
Ёсць нервы ж у жывой істоты.
І краты браў на памяць князь
Глыткамі цяжкімі свабоды.

Да ўцекача меў інтарэс,
Свяціў здалёку месяц млявы.
І расступаўся чулы лес,
Вітаў ён Ігара-Ўсяслава.

Хай і ў Пуціўлі жыў паэт,
Народ мой ведаў праваслаўны,
Што над Дзвіной за ўсіх кабет
Свая рыдала Яраслаўна.

Было далёка часу чуць
Жуду яе журбы вялікай –
Чым берагі твае ўзыйдуць
Пад сонцам заўтрашнім, Няміга?

А бачылі ж ужо вякі
Сваю наступную аблогу.
І несціханыя радкі
Адно выведвалі ад Бога.

Жадалі аднаго – святла.
І літарамі агнявымі
Туга аб згодзе пралягла
Іх, быццам словам Ефрасінні.

### 16. ЛІТАСЦЬ

Ад агню хавалася трава.
Капыты танулі па гразі.
У наш бок імчала татарва
Па дашчэнту спаленай Русі.

Тут і свой ажыў балотны гад,
З багны да жыцця насустрач лез.
Ды абараніў, як родны брат,
Засланіў грудзямі грозны лес.

А яшчэ быў з намі Усяслаў –
Наш і пасмяротны заражбіт.
Што Кайдана – дык пачаставаў
Князя дух, адправіўшы ў нябыт.

Пэўна, ад былых яшчэ багоў
Атрымалі ласку на зямлі.
"Белымі", свабоднымі з таго
Ганарліва звацца пачалі.

Вось тады і зорны час наспеў
Для дзяржаўнай нашай Талакі.
Адвялі ўжо душу мы сабе
За яе палонныя вякі.

За Дняпром зайздросцілі князі,
Галасіла руская ўдава.
Толькі Усявышні аб усім
Ведаў: не дарэмна шкадаваў.

### 17. БЕЛАЯ ВЕЖА

Ад успамінаў баліць галава...
Кветкі нясіце – чорныя ружы.
Белая Вежа – сівая ўдава –
Ў полі змяніла забітага мужа.

Не засталося дарог без крыві.
Не нагуляліся побач вар'яты.
Постаць яе з ног і да галавы
Тыя ж схавалі цагляныя латы.

Што за праклятая
ўсюды напасць...
Вось хоць і белая, светлая вежа –
Не удалося ёй, горкай, разняць
Захад з Усходам
на ратным памежжы.

Колькі манашак,
ранейшых нявест
Параскідаў злосна
морак крывавы.
Толькі цяпер усвядоміла змест,
Кошт непасільны
мужчынскае справы.

Дзесьці далёка
ў старонцы лясной.
Будуць чакаць
вельмі доўга матулі.
Гэтыя ж, пэўна, апошнія у ёй.
Хай бы да заўтра
яшчэ дацягнулі.

Знала, што хутка
зноў бліснe лязо...
Сёння ж світанак
марудна-бязлюдны.
Пільна ўглядалася за гарызонт –
Хто на Айчыну
крочыць наступны?

Сціснуць вятры
над асенняй зямлёй
Рана зусім заінелыя скроні.
Не развітаецца нават з дачкой
Бацька Алекса
ў татарскім палоне.



### 18. ШАХМАТЫ

Хлёсткім матам
апанентаў крыючы,
Шаха дастаючы жаралом,
Шахматамі бавіліся крывічы,
Калі роду ўсходзіла святло.

Пальцы напінаючы каравыя,
Тужыліся думкаю вачэй.
Цацкі дасталіся ім цікавыя
Аж ад магаметавых дзяцей.



Не ўсё ж гарбаціцца на працаю
Племяні з тутэйшых берагоў.
Ладзілі атакі-камбінацыі
Розумы паганскія яго.

Так ішла на клетак
ратнай роўнядзі
Тых сляпых касцяшак мітусня.
Цалкам забароненыя постаці
Не прынеслі шахматы здаля.

І былі як дзеці сіратлівыя
З успамін кароткаю смугой.
Зрок жывы ледзь успрымаў
нудлівую
Нежыць пехацінцаў пад рукой.

Перад валявой яго паходняю
Адступілася, урэшце, мгла.
Для душы задум гульня усходняя
Усяго зачэпкаю была.

Бо сваёй тут вабіла навукаю,
Дзе разьбяр не першы браў урок.
Ферзем уявіў сябе
з-пад Лукамля.
Гэты вось знаёмы мужычок.

Кроў на сонцы
воінства ладзейнае –
Успамінаў ратных песняры,
Абаронцы родзічаў надзейныя –
З ваўкавыскай бачыла туры.

О, Усход, яшчэ нагоніш жаху ты,
Процьму розных выпаліш вачніц.
Што ж, хоць ачунялі
твае шахматы
Ля жывой вады нашых крыніц.

### 19. КНІГА

Нясла ад ісціны лісты –
Свяціўся Боскай ласкай кожны.
Была ўлюбёнкай грамады,
Бралася ў рукі асцярожна.

Гучала як глыбінны звон
З далёкай белай камяніцы.
І бралі розумы ў палон
Чароўных знакаў таямніцы.

З раллі пергамента устаў
Сачыўся нагаворным зеллем.
Тым, хто як заражыў – пісаў,
З павагаю наўслед глядзелі.

Шукалі добрасці чала.
Ужо было вялікім дарам,
Калі хоць каліва святла
Ад вешчых рук перападала.

Бо вечнасці праклалі след
У цішыні зямной бяздонна.
І з Богам лучыла ўвесь свет
Благаслаўленная іх стома.

Што без павадыра прасцяг?
Ды цемра
над вандроўнай крыгай.
Але настаўніцай жыцця
У сэрца стукалася кніга.

Над шрамамі ад злосных спраў
Дух прапаведавала братні.
Зрок Ефрасінні мілаваў
Яе ў Сафійскай галубятні.

Вякі праходзілі... і зноў
Павольнае лагоды слова
Трымала доўга слухачоў
Вячэрняй хатняю размовай –

Аб мудрасці і дабрыні...
Дый сумныя былі тут песні –
Як кніга ўдалечыні.
Хоць наша, ладзілася дзесьці.

А дома не чакаў спакой –
Губілася у лютым шале.
Ёй стацца б роднаю дачкой,
Але ў падчаркі зганялі.

### 20. СКАМАРОХІ

Тады ўжо – "Хай жыве!" –
Гуло ў зямлі вакола.
Па торжышчах яе
Блукаў народ вясёлы.

І рагатаў халоп
Ці госць, толькі з дарогі.
Збіралі зноў натоўп
Бадзягі-скамарохі,

Такія дзівакі...
Хто абміне, прапусціць?
Аж беглі хлапчукі
Вярсту амаль насустрач.

Ад блазнаў дурнаты,
Мясцовы люд прынамсі,
Увесь за жываты,
Трасучыся, трымаўся.

- Ах чэрці, ах, жукі –
Не спыніш абразамі!
Пад дудак ручайкі
Мядзведзі танцавалі.

Паказвалі для ўсіх,
Як бабы ў лазню ходзяць.
Чмурэў жыхар Русі –
І праведнік, і злодзей.

Народ негаваркі.
Ды быў сусед бадзёры –
Гулялі землякі,
Прыродныя акцёры!

Вяселляў вешчуны,
Музыкі сельскіх баляў –
Ці пудзіл завадных.
Ці чорта прадстаўлялі.

- Хай нажывуць гарбы!
Каб дзе прыбіла громам!
Так песцілі папы
Кашчуннікаў з амбона.

Ад гэтакіх блазнот
Крывіўся пан вяльможны:
Які дурны народ –
Занадта скамарошні.

Ды ўжо ж, панам, князям
Такім вось і застаўся –
Сваё ён шчодра ўзяў.
Бо жыў, пакуль сяяўся.

## II. ЛІТВА

### 21. КЛІЧ.

Ноччу крычала сава,
Песні спявала свае.
Ой, спакушала Літва –
Звала яна да сябе.

Змрочны насоўваўся час –
Морак пажараў і плах.
Вораг ад мора на нас
З крыжам ішоў на грудзях.

Ды перад ім над агнём
Ладны трымаўся кацёл –
З блізкім суседам здавён
Згоднае мелі жыццё.

Без папяліпічаў, равоў
Плённую гутарку мрой
З нашай лагодаю вёў
Сціплы літоўскі спакой.

Што ж, калі Зніча прыгон
Неслі яму гушчары
І абміналі святлом
Храмы і манастыры.

Хоць і не білі званы,
Не шанаваўся абраз,
Але ўсё ж дзікуны
Не выракаліся нас.

Нават у даўні свой век
Дбалі аб нашай зямлі.
Чыстых азёраў і рэк
Як бы вакол налілі.

Сэрцы ўзяў у палон
(Ці не мацней за Хрыста)
Веер прыгожых імён –
Свіслач, Нароўля, Раста.

І – як маланка ляза –
Вораг сягнуў да варот.
Перад напасцю мужаў
Хмурна-маўклівы народ.

Паміж суровых магіл
Сілы збіраў пакрысе.
Дапамагалі багі
Помсціць за здзекі, за ўсе.

Пеніўся Нёмна ручай.
І год за годам, як леў,
У землякоў на вачах
Навагародак мацнеў.

Людзі сюды йшлі здалёк –
З цемры глухой і гразі.
І адступалі набок
Нашы ўсяславы, князі.

Шмат ён прыносіў надзей,
Голас літоўскіх мурóў.
Клікаў Міндоўга дзяцей –
Будаўнікоў, ваяроў.

Звалася блізкая кроў –
Постаці годных мужчын.
Без палачан, менчукоў,
Што б ім свяціла адным?

Не выпадала і нам
Перад бядой выбіраць,
Скрозь немагчымы туман
Ладзілі стрэчную гаць.

Слабыя гукі зязюль
Толькі раз'юшвалі мглу.
Хмары ішлі адусюль,
Ціснулі на галаву...

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Васіль Ліцьвінка*

# Каляды, Шчадрэц, Васілле

Сучасная форма сустрэчы Новага года была ўведзена Пятром I 20 снежня 1700 года ў большай ступені пад уплывам і на аснове рытуалаў немцаў. У выніку гэтага валачобніцтва на Вялікдзень - веснавая традыцыя беларусаў сустракаць Новы год па сонечнаму календару - стала калядаваннем - магічным абходам гаспадарак са спевамі святых вітальных песень:

***Пайшла, Каляда, калядуючы,***
***Гэй, Каляда, Каляда!*** *
***Зайшла Каляда ў першую хату.***
***А ў гэтай хаце серабро лічаць.***
***Зайшла Каляда ў другую хату.***
***А ў гэтай хаце золата важаць.***
***Зайшла Каляда ў трэцюю хату.***
***А ў гэтай хаце каўбасу пякуць.***
***Каўбасу пякуць, дай нам дадуць.***

Сучасны калядны абход двароў замяніў больш старажытныя сакральныя земляробчыя песенныя дзеянні-скокі ***каля ляда*** - адваяванага ў леса, выпаленага для сяўбы хлеба кавалка поля. Таму клопат пра пасеянае жыта - галоўны ў калядках, а хлеб, як ахвяра зімоваму сонцавароту, - галоўны дар-узнагарода каляднікам. Сімвал гэтай пераломнай кропкі Сонца - асветленую знутры запаленай свечкай (цяпер яе зручна замяняюць электралямпачкай) калядную Зорку - каляднікі носяць на высокім тронцы наперадзе спеўна-музычнага тэатралізаванага гурта калядоўшчыкаў. Калі яе можна было круціць, то па цэнтру малявалі казачна-легендарныя вобразы. У часы хрысціянства Зорка набыла сімволіку Віфліемскай (Батлеемскай) зоркі, якая асвяціла месца нараджэння Хрыста (у беларускім фальклоры гэта шопка, як часам называлі прадстаўленні батлейкі). Пасля дазволу гаспадароў спяваць каляднікі ўдакладнялі, што спяваць: " Каляду ці Раство?" У другім выпадку спявалі:

***Неба і зямля, неба і зямля радасна спяваюць,***
***Анёлы людзям,***
***анёлы людзям дзіва абвяшчаюць.***
***Прыпеў:***
***Хрыстос нарадзіўся,***
***Бог аб'явіўся.***
***Анёлы спяваюць,***
***Пастушкі іграюць***
***Дзіва, дзіва абвяшчаюць*** *

***У Віфліеме, у Віфліеме вясёла навіна,***
***Чыстая дзева, чыстая дзева парадзіла сына.***
***І мы дзіцятку,***
***і мы дзіцятку-богу паклон дайма,***
***Славу ўсявышню,***
***славу ўсявышню яму праспявайма.***

Тое, што Раство-Каляды сталі дзяржаўным святам, дае перспектыву, што ўнікальная смехавая культура батлейкавых калядных "крывых вечароў", калі рытуальна дазвалялася рабіць у форме народнай жыццёсцвярджальнай смехавой культуры ўсё, што забаранялася штучнымі ўмоўнасцямі паўсядзённасці, верне сабе статус карнавалізаванага тэатра жыцця, свята народа.

***Шчодрык - Конікі - Васілле - Гагатуха.*** Такія і назвы ***Шчадрэц, Шчодра*** мела свята "старога новага года" па юліянскаму календару У наш час гэта другі тыдзень калядаванняў - песенных тэатралізаваных абходаў гаспадарскіх двароў са спевамі шчадровак:

***Добры вечар табе, пане-гаспадару ,***
***Прыпеў:***
***Радуйся, ой радуйся, зямля,***
***Год новы нарадзіўся!****
***Засцілайце сталы ўсе абрусамі.***
***Кладзіце пірагі з ярае пшаніцы.***
***Бо прыйшлі да цябе тры святочкі ў госці.***
***А першае свята - святыя Каляды.***
***А другое свята - святое Васілле.***
***А трэцяе свята - святое Вадохрышча.***
***Хай святкуе з вамі ўся ваша радзіна.***

Шчодра была кульмінацыяй двухтыднёвых тэатралізавана-карнавалізаваных зімовых святак. У наш час яе можна пабачыць ва ўсёй яе рэгіянальнай непаўторнасці, мастацкай шматколернасці і прыроднай натуральнасці ў адным з самых старажытных цэнтраў Тураўскай зямлі - Давыд-Гарадку у выглядзе шчадравання з Конікам. Вобраз апошняга нясе ў сабе водгукі эпох прыручэння дзікіх жывёл і "вялікага перасялення народаў":

***Ой, там пад шчадром Васілька з канём,***
***Ой, грай, мора, радуйся зямля!****
***На кані сядзіць, дудачку дзяржыць,***
***У дудачку іграе, слічна спявае.***
***Прыйшла да Васіля маманька яго:***
***- Ой, сынку, сынку, хто цябе вучыў.***
***- У дудачку іграці, слічна спяваці?***
***- Была ў караля адная дачка.***
***Йна навучыла ў дудачку іграці.***
***У дудачку іграці, слічна спяваці***

Але паўсюдна на Беларусі шчадроўныя прадстаўленні ладзіліся вакол Казы - вядомага ўсім народам Еўропы сімвала ўрадлівасці нівы. Асноўным тэкстам іх быў:

***Мы самі ідзём і Казу вядзём,***
***Гавары з намі, з добрымі людзьмі****.
***Дзе Каза бывае - там шчасце чакае,***

***А дзе не бывае - там яно мінае.***
***Дзе Каза нагою - там жыта капою,***
***А дзе Каза рогам - там трава стогам.***
***- Ай ты, Козанька, расхадзіся,***
***Па ўсяму двару (хаце) разгуляйся.***
***Го-го-го, Каза, дзе ты бывала?***
***- У шчырым бару ягадкі брала,***
***Ягадкі браўшы - моцна заснула.***
***- Ой , Козанька, устань, развесяліся,***
***Гаспадар ідзе, каўбасу нясе,***
***І тры кускі сала, каб Козанька ўстала.***

На ўсходзе Беларусі Шчодра больш вядома як жаночы гурт, а на захадзе - як дзявочы. З-за характэрнага прыпеву ў карагодах Казы беларусы Беласточчыны называюць свята Гагатухай.

Першы дзень новага года па юліянскаму календары ў гонар цара Васіля Вялікага мае назву ***Васілле***. Асноўны рытуал яго - магічныя дзеянні на будучы добры ўраджай. Дзеткі меншага ўзросту з жытам у кішэнях ці хвартушках прыходзілі да сваіх кроўных ці бабуль-пупарэзніц, хрышчоных бацькоў, імітавалі засяванне поля і прыгаворвалі:

***Сею, сею, пасяваю,***
***З Новым годам віншую.***
***Сею, сею, пасяваю,***
***На новы ўраджай засяваю,***
***На новае лета,***
***На багатыя палеткі,***
***На ўрадліву ніўку,***
***На частыя конкі,***
***Як на небе зоркі і т.п.***

** Спяваецца пасля кожнага радка і двухрадкоўя.*

***Наступны нумар газеты выйдзе 8 студзеня 2004 г***

# С Т Р А Х
## (казка)

*Пройдзе час і гэта будзе,*
*Будуць унукам сваім людзі,*
*Кладучы іх у ложак спаць,*
*Так пра нашы дні казаць:*

... Неяк выйшлася,
што Страх
У галоўны здолеў гмах
Уладкавацца.
І злаякаснай пухлінай
Ён пачаў па ўсёй краіне
Распаўзацца.
І амаль пад кожным дахам
З той пары жылі
са страхам
Людзі.
Але волаты знайшліся,
І над Страхам узняліся
Мужна.
І сказалі: - Гэтак будзе
Пакуль мы не зразумеем,
Што па сваёй віне гібеем.
Калі гэта не спыніць.
Нам увогуле не жыць,
Страх задушыць.
Каб пазбегнуць такой долі.
Трэба ўсім набрацца волі,
Не баяцца.
Галаву вышэй узняць
Страху "НЕ!" сваё сказаць
Дружна.

І сказалі.
Страх ад страху
Урэзаў дуба і з-пад даху
Пакаціўся...
Вось і ўсё пра страшны
Страх
І мураваны грозны гмах.

*Калі ў казцы вы пазналі,*
*Што такое ёсць у вас,*
*Не марудзьце дарам час,*
*А ўздыхніце ва ўсе грудзі.*
*Дакажыце, што вы Людзі,*
*І Страх сканае!.*

***Фелікс Шкірманкоў,***
***Слаўгарад,***
***5 снежня 2003 г.***

## Паважаная рэдакцыя "Нашага слова"!

Да Вас звяртаецца сталая чытачка газеты Яўгенія Кулевіч. Шчыра дзякую, што апошнім часам у "Нашым слове" сталі змяшчаць крыжаванкі "Адновім мову". Гэта, на мой погляд, добрая школа вывучэння мовы. Цікавая рэч. Здаецца, ведаю родную мову, увабрала яе з малаком маці, а як пачынаю перакладаць, пераконваюся, што веды мае не такія глыбокія, як хацелася б. Аказваецца, мова мая моцна засмечаная русізмамі, што, на жаль, сама за сабой не заўважаю. Крыжаванка дае магчымасць аднавіць у памяці незаслужана забытыя, адметныя беларускія слоўцы. Вельмі добра, што не трэба чакаць наступнага нумара, каб праверыць правільнасць перакладу, бо тут жа змяшчаюцца адказы. Яшчэ раз дзякую Вам і жадаю поспехаў у выданні газеты, неабходнай кожнаму беларусу. Бывайце здаровы!

**В. Сялец, Смаргонскі раён.**

# Крыжаванка "Адновім мову"

## *Перакласці на беларускую мову*



**Па гарызанталях:** 3.Перила. 5.Обложка. 8.Хозяйственник. 11.Изморозь. 12.Ой. 13.Плотник. 15.Друг, член об-ва партии. 16. Качели. 17.Пена (на сырадоі). 19. Нужно. 20.Поляк. 25.Ель. 26. Магазин. 27.Чёрный виноград (дробны, без костачкаў). 30.Подземелье. 31.Тмин. 32.Хозяюшка кабака. 35.Обругала. 36.Крестьянка.

**Па вертыкалях:** 1.Эхо. 2.Сваи. 3.Принуди. 4.Цапля. 6.Чайка. 7.Отказал. 8.Чайничек. 9. Дую. 10.Корректор (жанчына). 13.Небольшай ушат. 14.Бороздка. 17.Состояние разъярённости. 18.Мешок. 21.Радуга. 23.Яровые (назоўнік). 24. Небольшая лохань (для мыцця бялізны). 28.Отчаливание. 29.Дама (у картах). 33.ОМОН (отряд міліцыі асобого назнач.). 34.Початок кукурузы.

*(Адказы можна праверыць на ст. 5.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 22. 12. 2003 г. Замова № 2784.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 3400 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1250 руб., 3 мес.- 3750руб.
*Кошт у розніцу:* 240 руб. (у Менску - 250 руб.)